# Голас Радзімы

№ 49 (2191)
6 снежня 1990 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ
(БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.


Цяпер кожная з'ява, кожная падзея грамадскага ці палітычнага жыцця ў Беларусі не выклікае аднадушнага ўхвалення ці нязгоды, адмаўлення, пратэсту. Кожны мае свой розум і дае свае ацэнкі. Няма былой маналітнасці і сярод камуністаў. І гэта добрая прыкмета, бо члены КПСС таксама жывыя людзі, а не паслухмяныя вінцікі аднаго механізма. Яны думаюць, аналізуюць, перажываюць, у многім не згаджаюцца са сваімі лідэрамі і смела гавораць аб гэтым.

Менавіта такая атмасфера панавала і на XXXI з'ездзе Кампартыі Беларусі, які адбыўся ў Мінску 28 лістапада—1 снежня 1990 года. Ад трывогі за лёс партыі і рэспублікі, канструктыўных прапаноў выхаду з крызісу да настальгіі па «старых добрых часах»— такі дыяпазон спрэчак дэлегатаў на з'ездзе. Многія патрабавалі наладзіць разумны і плённы дыялог з апазіцыйнымі Кампартыі грамадскімі рухамі і плынямі, шукаць шляхоў да кансалідацыі грамадства на платформе талерантнасці, павагі да чужых поглядаў.

З'езд Кампартыі Беларусі, вядома ж, стаўся падзеяй не толькі для людзей з партыйнымі білетамі. За яго работай сачылі, хто са шчырым перажываннем і надзеяй, хто са з'едлівасцю і нават нянавісцю, і прыхільнікі іншых партый і рухаў, і беспартыйныя. Пікеты перад Мінскім Домам афіцэраў ва ўсе дні работы з'езда — прыклад таго, як успрымалася гэтая падзея і ў сталіцы, і ў Беларусі.

На з'ездзе былі ўтвораны кіруючыя органы партыі. Першым сакратаром ЦК Кампартыі Беларусі абраны А. Малафееў.

НА ЗДЫМКАХ: на XXXI з'ездзе КПБ; пікеты перад будынкам, дзе праходзіў з'езд.

Фота Я. КАЗЮЛІ і М. АХРАМЕНКІ.









ПРЫНЯТА ПАСТАНОВА

## АБ СТАНОВІШЧЫ Ў КРАІНЕ

**Абстаноўка ў краіне працягвае пагаршацца і набліжаецца да крытычнага стану. Становішча ў палітычнай, сацыяльна-эканамічнай сферах і на спажывецкім рынку ўскладняецца, парушана таварна-грашовая збалансаванасць. Вастрыня міжнацыянальных адносін набыла небяспечны характар. Адбываецца распад структур выканаўчай улады. Узмацняецца негатыўнае ўздзеянне ценявой эканомікі, зніжаецца дысцыпліна і парадак, расце злачыннасць. У краіне склалася надзвычайная сітуацыя, якая патрабуе прыняцця радыкальных мер.**

**У той жа час няўзгодненасць у дзейнасці Вярхоўнага Савета СССР, Вярхоўных Саветаў рэспублік і выканаўча-распарадчых органаў робіць негатыўны ўплыў на сацыяльна-палітычную абстаноўку ў краіне. Расшыраецца практыка прыняцця заканадаўчымі органамі рознага ўзроўню актаў, якія супярэчаць адзін аднаму. Прымаемыя законы і Указы Прэзідэнта СССР у многіх выпадках застаюцца нявыкананымі або не дасягаюць жаданых вынікаў. У гэтай сувязі, прызнаючы неабходнасць захавання Саюза ССР на аснове новага Саюзнага дагавора, які забяспечвае інтарэсы суверэнных рэспублік, Вярхоўны Савет СССР лічыць мэтазгодным у якасці прамежкавай меры заключэнне двухбаковых і шматбаковых пагадненняў, што базіруюцца на законах СССР аб размежаванні кампетэнцыі паміж Саюзам ССР і суб'ектамі Федэрацыі ў галіне заканадаўчай і эканамічнай дзейнасці.**

**Зыходзячы з прапаноў Прэзідэнта СССР, кіраўнікоў рэспублік і народных дэпутатаў СССР, Вярхоўны Савет СССР прыняў пастанову з указаннем канкрэтных мерапрыемстваў па ліквідацыі крытычнага становішча ў краіне.**

ІНВАЛІДЫ І ГРАМАДСТВА

## ВЯРНУЛІСЯ З НАДЗЕЯЙ

**З Будапешта вярнуліся ў Мінск прадстаўнікі Беларускага рэспубліканскага таварыства інвалідаў. Там яны ўпершыню прынялі ўдзел у нарадзе выканаўчага камітэта Міжнароднай федэрацыі інвалідаў працы, інвалідаў з фізічнымі і разумовымі заганамі. Праўда, пакуль толькі ў якасці назіральнікаў. Мэтай паездкі сталі папярэднія перагаворы аб уступленні беларускай арганізацыі ў адну з самых аўтарытэтных у свеце федэрацый інвалідаў.**

**— Атрыманне «членскага білета» значна расшырыла б нашы магчымасці, — лічыць пер наметнік старшыні таварыства Вячаслаў Кузі І перш за ўсё, адкрыла б доступ да буйной інфармацыйнай базы ў галіне рэабілітацыі інвалідаў, арганізацыі іх работы практычна ва ўсіх сферах дзейнасці, узаемадзеянні з дзяржаўнымі структурамі. Іншымі словамі, мы адразу атрымалі б той вялікі сусветны вопыт, недахоп якога так адчуваецца.**

**Аднак гэта не проста. Галоўнай перашко, з'яўляецца ўступны ўзнос, які неабходна зрабіць у валюце.**

**Не выключана, што рэспубліцы, якая найбольш пацярпела ў выніку чарнобыльскай катастрофы, будуць прадастаўлены льготы.**

АДРОДЖАНЫ ХРАМ



**У Мінску адбыліся ўрачыстасці з нагоды адраджэння храма Святой роўнаапостальнай Марыі Магдаліны. Пабудаваны ў сярэдзіне мінулага стагоддзя, ён быў закрыты савецкімі ўладамі. Цяпер храм вернуты веруючым. Першую службу ў ім правіў Мітрапаліт Мінскі і Гродзенскі, Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі Філарэт.**
**НА ЗДЫМКУ: Мітрапаліт ФІЛАРЭТ звяртаецца да ўдзельнікаў урачыстасцей у дзень адкрыцця храма.**

*«З пазіцый сённяшняга дня неабходна сказаць і аб недаглядах ЦК КПБ, яго Бюро, камуністаў, якія працуюць ва ўрадзе, Вярхоўным Савеце рэспублікі. Аб гэтым, дарэчы, гаварылася і на XXVIII з'ездзе КПСС.*

*Мы не змаглі з самага пачатку катастрофы паставіць сябе ў адносінах да кіраўніцтва ЦК КПСС і ўрада краіны так, каб намнога раней зняць з яе заслону сакрэтнасці, ведаць самім і давесці маштабы трагедыі да шырокай грамадскасці. А гэта трэба было зрабіць, каб з першых дзён засцерагчы ад небяспекі жыццё і здароўе насельніцтва ва ўзнікшых экстрэмальных умовах, прымусіць вучоных сур'ёзна заняцца распрацоўкай канцэпцыі бяспечнага пражывання, падключыць неабходныя сілы для стварэння дзяржаўнай праграмы па ліквідацыі вынікаў чарнобыльскай катастрофы.*

*Выправіць памылкі, многія з якіх базіруюцца на няправільнай пазіцыі, недаацэнцы размераў і вынікаў трагедыі, можна толькі аператыўнымі, настойлівымі дзеяннямі па выкананню праграмы, і перш за ўсё па адсяленню людзей. У гэтым і будзе заключацца важнейшая задача новавыбранага ЦК, камуністаў-кіраўнікоў ва ўрадзе, у партыйных, савецкіх і гаспадарчых органах.*

*Пакуль жа праграма рэалізуецца марудна».*

*(З даклада Я. САКАЛОВА на XXXI з'ездзе КПБ).*

ДАБРАЧЫННЫ ВЕЧАР



**У Доме літаратара ў рамках фестывалю нацыянальных культурных традыцый прайшоў дабрачынны вечар Мінскага гарадскога ўкраінскага грамадска-культурнага таварыства «Заповіт». На вечары гучалі вершы ўкраінскіх паэтаў і нацыянальныя музычныя творы, былі паказаны калядныя народныя абрады, з якімі выступілі госці з Львова.**
**У фае працавала выстаўка-продаж нацыяналь ук-раінскіх вырабаў, сувеніраў. Тут жа можна было купіць і ўкраінскія газеты. Усе сродкі ад гэтага дабрачыннага вечара пойдуць на развіццё таварыства «Заповіт».**
**У планах Мінскага гарадскога аддзялення Савецкага фонду культуры, па ініцыятыве якога быў наладжаны вечар, правесці такія ж вечары з удзелам прадстаўнікоў армянскай, татарскай і азербайджанскай нацыянальных культур.**
**НА ЗДЫМКУ: продаж украінскіх газет.**

ЗРОБЛЕНА Ў ГРОДНЕ

## «ВЕРАС-225»

**Шматпраграмныя радыёпрыёмнікі «Верас-225» пачаў выпускаць гродзенскі завод «Радыёпрыбор». Апараты такога класа, здольныя працаваць у дыяпазоне хваляў ад 16 метраў і больш, для ўнутранага рынку выраблены ўпершыню ў краіне.**

**Маючы чыстае гучанне, электронныя сістэмы настройкі і пераключэння праграм, яны вызначаюцца і больш прывабным вонкавым афармленнем. Навінка менш важыць, можа працаваць ад сеткі, звычайных і акумулятарных батарэй. Да канца года гандлёвыя арганізацыі атрымаюць некалькі тысяч вырабаў, для выпуску якіх на прадпрыемстве створаны спецыяльны ўчастак.**

**На базе гэтага прыёмніка, які з часам замяніць стары «Акіян», заводскія канструктары рыхтуюць яшчэ некалькі мадэлей. Яны будуць забяспечаны электроннымі будзільнікамі, арыгінальнай падсветкай. Тут ужо збіраюць «Селену» і дзіцячы радыёпрыёмнік «Зарніца», якія ідуць на экспарт.**

ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ

● Аўтамабільныя дэталі, якія выпускаюцца на Асіповіцкім заводзе аўтаагрэгатаў, карыстаюцца вялікім попытам у аўтамабільнай прамысловасці нашай краіны. Дапамагчы задаволіць гэты попыт узялася італьянская фірма «Паліна», мантаж абсталявання ўжо пачаўся.

● У апошнія гады Беларусь стала базавай рэспублікай для развіцця ўсходніх відаў барацьбы: цяпер тут плённа працуюць дзесяткі майстроў з В'етнама. Нядаўна іх «войска» папоўнілася. У Мінск прыехалі дзяліцца сваімі сакрэтамі сусветна вядомыя спартсмены — заснавальнік стылю тхань лонг прэзідэнт асацыяцыі нацыянальных баявых мастацтваў В'етнама Лэ Кім Хоа, прадстаўнік школы вавінам-в'ет во дао Нгуен Ань Зунг і настаўнік кунфу Кхань Хонг За. Мэта — заснаваць у Беларусі школы сваіх відаў адзінаборстваў, закласці падмурак для іх масавага развіцця.

● Першымі жыхарамі рэспублікі, якія могуць глядзець перадачы кабельнага тэлебачання, сталі мазыране. Ініцыятарам новаўвядзення выступіў завод «Мазыркабель», які купіў японскую тэлеапаратуру за валюту. У завода ўжо ёсць свая тэлестудыя. У перспектыве камерцыйнага канала спадарожнікавая сувязь, навіны горада, рэклама, заяўкі гараджан на любыя праграмы свету.

АПАЗІЦЫЯ БАЧЫЦЬ ВЫЙСЦЕ

# ШТО ТАКОЕ БЧС?

**23-24 лістапада ў Мінску адбыліся парламенцкія перагаворы дэпутатаў Балтыйска-Чарнаморскіх рэспублік. У іх прынялі ўдзел дэлегацыі фракцыі Народнага фронта Латвіі ў Вярхоўным Савеце Латвійскай Рэспублікі, Вярхоўнага Савета Літоўскай Рэспублікі, апазіцыі Беларускага народнага фронта ў Вярхоўным Савеце Беларускай ССР і апазіцыі (Народнай Рады) у Вярхоўным Савеце Украінскай ССР. Па выніках сустрэчы прынята сумесная заява і рэзалюцыя аб эканамічным супрацоўніцтве, аб гуманітарным супрацоўніцтве і аб падыходах да будаўніцтва нацыянальных узброеных сіл дзяржаў Балтыйска-Чарнаморскага рэгіёна.**

Як падкрэслілі кіраўнікі дэлегацый, яны не мелі афіцыйных паўнамоцтваў ад сваіх вышэйшых улад, а таму сама сустрэча і дакументы, прынятыя ёю, носяць рэкамендацыйны характар.

Памятаючы просьбу арганізатараў прэс-канферэнцыі, якая была наладжана па заканчэнні перагавораў, паставіцца добразычліва да асвятлення падзеі, хачу ўсё ж заняць іншую пазіцыю: глянуць на мінскія перагаворы без сімпатый і антыпатый. Думаю, што крайнія пазіцыі сёння проста памылковыя, бо ў наш плюралістычны час ніхто не можа сцвярджаць: я і толькі я скажу вам ісціну, я і толькі я ўкажу вам адзіна беспамылковы шлях.

На сустрэчы ў Мінску, як адзначана ў заяве, былі разгледжаны перспектывы палітычнага, эканамічнага і гуманітарнага супрацоўніцтва паміж Балтыйскімі краінамі, Беларуссю і Украінай, а таксама магчымасці доўгатэрміновага ўзаемадзеяння і каардынацыі сумесных намаганняў у дасягненні незалежнасці гэтых краін.

Пра што тут гаворка? На прэс-канферэнцыі лідэр апазіцыі БНФ Зянон Пазняк заявіў, што размова ідзе аб стварэнні садружнасці дзяржаў ад Балтыйскага да Чорнага мора. У імя чаго павінна быць створана Балтыйска-Чарнаморская садружнасць? У імя дасягнення рэальнага суверэнітэту Беларусі і кожнай з рэспублік гэтага рэгіёна. Бо, як адзначылі ўдзельнікі сустрэчы, паасобку кожнай рэспубліцы вельмі цяжка набыць незалежнасць і ці, наогул, магчыма.

Такім чынам, стратэгічная мэта кожнага з удзельнікаў сустрэчы — незалежнасць, а тактыка дасягнення яе — праз агульныя намаганні ў сістэме Балтыйска-Чарнаморскай садружнасці — БЧС.

Можна не падзяляць погляды апазіцыі БНФ, але нельга адмаўляць ёй у праве на гэта. Заслугоўвае ўвагі тое, што ў час нестабільнасці, калі СССР пагражае міжусобіца і распад, БНФ шукае выйсце са становішча, якое можа стаць трагічным. Але справа ў тым, дзе шукае і з кім пойдзе да незалежнасці. Ясна, што апазіцыя не бачыць Беларусь у саставе аднаўленага Саюза як суверэнную рэспубліку. Мы пойдзем самі па сабе, адчуваючы плячо дружалюбных дзяржаў справа і злева. Што гэтаму зарукай? Наша сужыццё ў Вялікім княстве Літоўскім, дзе ўсім было так добра, і наша светлая будучыня.

Вось тут, мне здаецца, самая небяспечная ілюзія. Цяпер у нас так шмат гаворыцца пра салодкае жыццё ў мінулым, асабліва аддаленым ад нашага няўтульнага, сацыяльна напружанага часу, што так і хочацца вярнуцца туды. Але вярнуцца назад нельга: гісторыя не паўтараецца. А што датычыцца светлай будучыні, то хто толькі нас ні клікаў да яе. І ўсе заводзілі ў тупік. Так што ўжо маем вопыт.

Калі палітыкі заглядаюць наперад, яны павінны прадбачыць, што там нас чакае. У якіх межах будзе суверэнная Беларусь? У межах шасці паветаў Мінскай вобласці, як на пачатку 20-х гадоў, ці з Віленшчынай і тымі раёнамі Беларусі, якія Сталін «падараваў» Літве? З усімі этнічна беларускімі землямі?

На пытанне: ці не было якіх разыходжанняў у поглядах на праблемы ва ўдзельнікаў сустрэчы, кіраўнік літоўскай дэлегацыі адзначыў, што дакументы пісаліся і прымаліся надзвычай лёгка. Гэта пакуль усіх аб'ядноўвае агульная мэта — хутчэй вырвацца з «абдымкаў Расіі». Але ці не будзе потым, як у той рускай прыказцы: «Дружба дружбой, а табачок врозь»?

БЧС мне так і хочацца расшыфраваць як Балтыйска-Чарнаморская серэнада, якая так зманліва гучыць сёння, калі яе спявае апазіцыйны хор. Але цікава, якая партыя будзе аддадзена Беларусі па дасягненні мэты? Ці не застанёмся мы сам-насам са сваім Чарнобылем? Не будзем крывіць душой: кожны дбае перш за ўсё пра сябе. Ці не пра гэта сведчыць таможная вайна, якую пачала Прыбалтыка і апошняй у якую ўступіла Беларусь?!

І яшчэ пра адно. На прэс-канферэнцыі нездарма было зададзена пытанне: як сёння можна адарваць Беларусь ад Расіі? Як бы апазіцыя ні клікала на Захад, але будзем рэалістамі: парваць векавыя сувязі Беларусі з Расіяй наўрад ці магчыма. І ці трэба?

На гэты конт могуць быць розныя меркаванні. Але мне асабіста хочацца ўзяць у саюзнікі Алеся Барскага, бо падзяляю яго цвярозую думку, якую ён выказвае ў беластоцкай «Ніве»: «Параканане, што выхад са структуры, якая завецца СССР, будзе азначаць уваход у дабрабыт, з'яўляецца пераканаman вельмі наіўным...

Застаюцца нам цяжкія эканамічныя сувязі з Расіяй. Можа, не такія, як дагэтуль. Можа, больш справядлівыя і карысныя, але зноў галоўным чынам з Расіяй».

**В. КРАСЛАЎСКІ.**

*ПІСЬМЫ ЗБЛІЗКУ*

# ЯК ЖЫВЕШ, МАЯ СТАЛІЦА?

НА АГУЛЬНАЙ карце шматнацыянальнай краіны Саветаў ёсць у кожнага свая асаблівая кропка, якая ярчэй за іншыя бачыцца адусюль, куды б ні закінуў чалавека лёс. Гэта месца, дзе нарадзіўся і рос. Гэта край, які заўсёды хвалюе, прыцягвае да сябе нашы душы і сэрцы. Адным словам, Бацькаўшчына! І не передаць нічым хваляванне, якое ахоплівае чалавека, калі пасля доўгай разлукі ён прыязджае ў родныя мясціны.

Айчына... Радзіма... Зараз да гэтых слоў зусім іншае стаўленне, асабліва ў моладзі. Дарэчы, і я ў свой час кпіў са старэйшых — напышлівыя словы, сентыментальнасць! Пакуль не паплаваў мараком за далёкі свет, а потым не асеў на доўгія гады — за сотні кіламетраў ад Беларусі. Праўда, у адрозненне ад еўрапейскіх ці амерыканскіх беларусаў я ўсё ж магу лічыць сябе «сваім» эмігрантам, бо жыву ў Ноўгарадзе. Але ад гэтага мая туга па Беларусі, мая настальгія не меншая, чым у іх.

І кожная вясна кліча мяне, як тую птушку з выраю, да родных мясцін. Там душа мая святлее і напаўняецца тым самым «сентыментальным» патрыятызмам, які ў чалавеку я цаню вышэй за ўсё.

Але за рэдкія дні чарговага адпачынку толькі і ўдавалася пабываць у самым дарагім для цябе месцы, у вёсцы, дзе нарадзіўся. А мне так хацелася пабачыць сталіцу! І толькі сёлетняй восенню пашчасціла, нарэшце, з'ездзіць туды, дзе не быў больш за дзесятак гадоў.

Першае, што зрабіў, паездзіў на метро. Карыстацца падземнай чыгункай для мяне не навіна (ездзіў у ленінградскім, маскоўскім, кіеўскім і нават у замежных метрапалітэнах), але скажу па праўдзе: беларускае мне падалося зручнейшым. Можа таму, што новае, сучаснае. Не магу не адзначыць зручнасць і архітэктурную выразнасць вестыбюляў, платформенных залаў.

Мінск па праву лічаць адным з прыгажэйшых гарадоў у нашай краіне. У гэтым няцяжка было пераканацца, ездзячы па яго вуліцах, ходзячы скверамі, паркамі, у якіх так шмат прасторы, святла, зеляніны. Прыемнае ўражанне пакінула ў мяне наведванне новых мікраёнаў. У адным з іх па праспекце Газеты «Известия» наведаўся ў госці да свайго флоцкага сябра Міхася Дуброўскага. Калісьці мы служылі з ім на адным крэйсеры двойчы Чырванасцяжнага Балтыйскага флоту, дзе і нарадзілася наша сяброўства. Цяпер не толькі з ім перапісваемся, але і зрэдку сустракаемся. Дык вось, гэты мікрараён хочацца прывесці ў супастаўленне з некаторымі, праўда, больш балоцістымі мясцінамі Ленінграда і Ноўгарада. У расійскіх гарадах не толькі не ўбачыш зеляніны, але нават даводзіцца хадзіць восенню і ранняй вясной у гумовых ботах...

Аднак якім бы прыгожым ці своеасаблівым ні быў горад на Свіслачы, у кожнага з яго сапернікаў ёсць сваё, толькі для яго характэрнае. Асаблівасці гэтыя часцей за ўсё выяўляюцца ў архітэктурных пабудовах і славутасцях. Для Ленінграда гэта перш за ўсё яго шырокі і доўгі Неўскі праспект з залацістым шпілем Адміралцейства, для Ноўгарада — Крэмль з помнікам «Тысячагоддзе Расіі». Але ж у Мінску ёсць Ленінскі праспект і плошча Перамогі з высокім шпілем-помнікам. У гэтым абеліску — галоўнае, што характэрна для сталіцы Беларусі. Хай праходзяць не толькі дзесяцігоддзі, але і стагоддзі, а да Вечнага агню, што ля падножжа гэтага 40-метровага гранітнага абеліска Перамогі, будуць класціся кветкі. І не толькі рукамі маладажонаў, якіх я бачыў у дні свайго знаходжання ў Мінску, а пастаянна, усімі людзьмі.

На такой мажорнай ноце можна было б і закончыць артыкул аб уражаннях, прывезеных са сталіцы Радзімы. Ды не дае спакою думка: а ці ў роднай рэспубліцы я пабываў? Знешне гэта беларускі горад, а калі гутарыў з мінчанамі, не адчуваў розніцы паміж Ноўгарадам і Мінскам. Стараўся да іх звяртацца на роднай мове, але адказвалі мне галоўным чынам на рускай. Нават у кнігарнях, калі я штосьці пытаў у прадаўшчыц пра беларускіх аўтараў, глядзелі на мяне, як на іншапланецяніна.

— А што ты хацеў, — «цешыў» мяне мой флоцкі сябар Дуброўскі, падсунуўшы такую статыстыку. — У 1979 годзе 79,4 працэнта жыхароў рэспублікі складалі беларусы, прычым 87,5 працэнта лічылі роднай мовай беларускую. Але не вер гэтым лічбам, бо вось іншыя: 86 працэнтаў ад усёй колькасці школьнікаў навучаліся ў той час у рускамоўных школах. Вось і «давучыліся»: нават тое, што ў 1988/89 навучальным годзе адчыніліся ў сталіцы рэспублікі 17 першых класаў з беларускамоўным навучаннем, як кажуць, асаблівага надвор'я не зрабіла, бо ў кожным класе налічвалася не болей за 15 вучняў. Чамусьці нацыі хочацца быць «абруселай». І ці не па гэтай прычыне мне так і не давялося купіць «Вячэрні Мінск» на беларускай мове. Ды што там гаварыць пра газеты сталічнага горада, калі нават «Сельскую газету» ўсё яшчэ выпускаюць на рускай мове. А яна ж выданне для вясковых жыхароў.

Раздумваеш пра ўсё гэта і дзіву даешся: а чаму самі беларусы, што жывуць на тэрыторыі рэспублікі, не вельмі захвочаны гутарыць на роднай мове? І зайздросціш таму, як шануюць сваю беларускасць нашы суайчыннікі за мяжой, аб чым я даведваюся з газеты «Голас Радзімы». Яны, нашы далёкія землякі, ганарацца сваёй Бацькаўшчынай, імкнуцца не губляць повязі з роднай культурай, традыцыямі, звычаямі. Нібы бясцэнны скарб, аберагаюць яны беларускія вышываныя ручнікі, паясы, посцілкі, нацыянальныя касцюмы, прадметы паўсядзённага побыту... Як добра, што яны выхоўваюць праз мову і культуру любоў да Радзімы бацькоў, дзядоў і прадзедаў...

Ці не павучыцца нам у іх?.. У нашых суайчыннікаў, якія не толькі не забываюць Радзіму, але і праслаўляюць яе. І зноўтакі не магу не спаслацца на «Голас Радзімы». Так, у нумары за 19 студзеня 1989 года прачытаў пра амерыканскага беларуса Багдана Андрусішына-Данчыка. Яго маці—беларуска, бацька — украінец. Дзіву даешся, што, ні разу не пабываўшы на зямлі бацькоў, ён з маленства палюбіў беларускую песню і стаў яе актыўным прапагандыстам і папулярызатарам у Амерыцы. Дык хіба ж не могуць быць падобнымі на яго савецкія беларусы? Тыя самыя, што жывуць у Расіі, Прыбалтыцы, Закаўказзі, на Украіне і іншых шматлікіх рэгіёнах краіны?

Могуць! Ва ўсякім разе гэтая думка праходзіла амаль ва ўсіх выступленнях удзельнікаў Устаноўчай канферэнцыі згуртавання «Бацькаўшчына», якая адбывалася восенню ў Доме літаратара. Толькі сумеснымі дзеяннямі, высокай актыўнасцю, супольнымі намаганнямі мы зможам адрадзіць сваю мову, вярнуць да жыцця і дзейнасці родную самабытную культуру, спадчыну, замацаваць сябе народам са слаўнай і багатай гісторыяй. Неабходна, падкрэслівалася на канферэнцыі, каб згуртаванне «Бацькаўшчына» дапамагло з'яднаць беларусаў Савецкага Саюза.

**Сямён ЖАМОЙДА,**
**удзельнік Устаноўчай канферэнцыі згуртавання «Бацькаўшчына».**

# НАШ СУСЕД— ПОЛЬШЧА







**Праблемамі эканомікі, рынку цяпер цікавяцца практычна ўсе. Як будзем жыць далей, ці стануць і калі нашы прылаўкі багатымі, якія ж усё-такі будуць цэны!— тэмы размоў у сям'і, у метро, на рабоце, нават у гасцях. Таму зразумелы інтарэс да працэсу эканамічных пераўтварэнняў у нашага бліжэйшага суседа — Польшчы.**

**Пасля амаль стэрыльнай чысціні (больш правільна, пустаты) нашых сённяшніх паліц багацце тавараў у магазінах горада Беластока ўражвае. Разнастайныя мясныя, малочныя прадукты, шырокі выбар гародніны і фруктаў, прамысловых тавараў. І — ніякіх чэргаў.**

**Журналісты з беластоцкай газеты «Кур'ер Падляскі» абмалявалі карціну рэформы, прапанаваную міністрам фінансаў Рэспублікі Польшчы Л. Бальцаровічам, так: было вырашана адмовіцца ад кантролю за цэнамі, акрамя цэн на некаторыя жыццёва важныя тавары, такія, як электраэнергія, паліва, хлеб, малако. Пры гэтым замарожвалася зарплата. Рост цэн, аднак, аказаўся не бясконцым. Калі ў студзені ён склаў каля ста трыццаці працэнтаў, то да верасня — усяго паўтара працэнта. Натуральна, знізіўся рэальны даход насельніцтва. Людзі сталі менш купляць, дарагоўля прымусіла эканоміць. З-за адсутнасці збыту пачалося скарачэнне вытворчасці, ліквідацыя шэрагу прадпрыемстваў. Але зніжэнне даходу насельніцтва выклікала і рост прадпрымальнасці. Многія сталі шукаць шляхі паляпшэння свайго фінансавага становішча. Як грыбы пасля дажджу, растуць невялікія магазінчыкі, салоны, майстэрні. Прыватызацыя ідзе поўным ходам. Мяркуецца, што праз два-тры гады ёю будзе ахоплена амаль палавіна эканомікі рэспублікі. «План Бальцаровіча» прадугледзеў і меры па ўмацаванню «аўтарытэту» злотага. Адкрыўшы свабодны продаж любой валюты, тут жа стварылі льготныя ўмовы для захоўвання злотых у ашчадных касах.**

**Тое, што змог зрабіць кабінет Т. Мазавецкага крыху больш чым за год, натуральна выклікае пытанне: а ці не занадта доўга і нерашуча мы тупаем на месцы, спрабуючы залатаць дзіркі нашай эканомікі!**

**НА ЗДЫМКАХ: як грыбы пасля дажджу, растуць у Беластоку магазінчыкі, салоны, майстэрні, кафэ; а гэта нашы суайчыннікі на беластоцкім базары асвойваюць азы рыначных адносін.**

ПРАЧЫТАЎШЫ

## Ў ВАШАЙ ГАЗЕЦЕ...

Шаноўны пан рэдактар, не магу прадбачыць, чым вы кіраваліся, друкуючы ў «Голасе Радзімы» ад 27.08.90 г. ліст з Вільні пана Міхася Расевіча, але, на маю думку, такіх лістоў, якія абражаюць годнасць іншых народаў, друкаваць не варта. Павага да чужой думкі быць павінна, але не ў гэты спосаб. Тое, што Беларусь выставіла тэрытарыяльныя прэтэнзіі да Літвы, гэта правакацыя, кіраўніцтва якою ідзе з Масквы, каб задушыць чужымі, беларускімі рукамі імкненне літоўскага народа да свабоды і незалежнасці, не даць прыклад іншым народам імперыі выйсьці на шлях самастойнага развіцця. А палякі Віленшчыны, літоўцы кажуць, што гэта спаланізаваныя літоўцы, беларусы, што спаланізаваныя беларусы, а можа дазволім ласкава гэтым людзям самім акрэсліць сваю нацыянальнасць. Добра ведаючы гэты край, нешта не спаткаў нікога, хто б патрабаваў змяніць польскую нацыянальнасць на беларускую альбо літоўскую, нешта не ставяць яны пытанне і аб адкрыцці беларускіх школ. Што ж датычыцца беларусаў, дык як раней, так і зараз яны нават саромеюцца прызнаць сябе беларусамі, дык вось бы і працаваць адраджэнцам беларускасьці сярод беларусаў, а палякі сваімі справамі займуцца самі, як і літоўцы. Беларусам бы навесьці парадак у Беларусі, а не ўглядацца ў бок Віленшчыны, Беласточчыны, Смаленшчыны, Браншчыны і Пскоўшчыны, а то не далёкі час, калі і Масква атрымае беларускі радавод. Дзякуй Богу, што Вільня адышла да Літвы, а то б мы мелі яшчэ адзін брудны і адсталы ў культурным значэнні абласны горад са знішчанымі звышінтэрнацыяналістамі былымі помнікамі культуры. Толькі прыязныя адносіны з Літвой будуць спрыяць адраджэнню славяншчыны ў Віленскім краі, у тым ліку і беларушчыны.

**З павагай А. ЯКАЎЛЕЎ.**
Йашкар-Ала.

## НАЛЕЖАЦЬ НАШАЙ ГІСТОРЫІ

# ЛІХТАРЫК ЖЫЦЦЯ У. ІГНАТОЎСКАГА



Гэта і паходжанне з сацыяльна варожага асяродку, і контррэвалюцыйная дзейнасць да 1917 года, якая аўтаматычна перарастала ў антысавецкую, гэта і ўдзел у антыпартыйнай групавой барацьбе, і свядомы падман партыі лжывымі пакаяннямі, і належнасць да яе кулацкай агентуры. Гэта, нарэшце, выдаванне сакрэтаў, сувязь з замежнымі нацыянал-фашыстамі (без малога — шпіянаж). Адпаведны быў і прысуд: з партыі выключыць. 24 студзеня пастанова гэта, зацверджаная перад тым Бюро ЦК КП(б)Б, была надрукавана ў пераказе ў перадавым артыкуле газеты «Звязда», на наступны дзень — у газеце «Рабочий».

Надыходзіць апошні акт драмы У. Ігнатоўскага. Яго пачынаюць выклікаць на допыты ў АДПУ. Канкрэтны змест іх нам пакуль што невядомы. З двух хадайніцтваў старэйшага сына Усевалада Макаравіча (у 1931 годзе і ў канцы 50-х) аб рэабілітацыі бацькі вядома толькі, што пасля аднаго з такіх допытаў, 3 лютага 1931 года, Ігнатоўскі прыйшоў дадому маральна і фізічна прыгнечаны. Раніцай наступнага дня тэлефанаваў сакратару ЦК КП(б)Б (К. Гею?) з просьбай тэрмінова прыняць яго, але атрымаў адмову. Паскардзіўся родным, што на допыце вымушаны быў падпісаць паказанні, якія па многіх пунктах не адпавядалі сапраўднаму становішчу. Зрабіў ён гэта таму, што яго доўга дапытвалі, абыходзіліся з ім груба, ён стаміўся і, не маючы апраўдальных дакументаў, не змог абвергнуць шэраг абвінавачванняў. Потым пайшоў у свой кабінет, адкуль у хуткім часе пачуўся пісталетны стрэл. Некалькі гадзін яшчэ жыў, яшчэ паспелі адвезці яго ў 1-ю Савецкую бальніцу, але выратаваць не змаглі. Як зафіксавана ў бальнічнай даведцы (арыгінал яе захаваўся ў сям'і Міхаіла), смерць Ігнатоўскага Усевалада наступіла ад «сквозной стреляной раны головы».

Яго самагубства — гэта не слабасць, а пратэст. Яго самагубства — гэта сцвярджэнне сваёй чалавечай годнасці. Гэта перамога магутнага духу над кволай плоццю. Гэта разуменне, што за мяжой сумлення няма жыцця, ёсць толькі існаванне.

Адразу ж пасля смерці былога акадэміка сакратар ЦК КП(б)Б К. Гей адбіў на імя Сталіна тэлеграму: «Игнатовский скончался днем 4-го февраля через несколько часов после выстрела». Ёсць над чым задумацца: тэлеграма асабіста генсеку аб самагубстве чалавека, ранг якога па афіцыйнай іерархіі падстаў для такой «увагі» не даваў? Ці не высвечвае гэты факт імя таго, хто непасрэдна стаяў як за «справай Ігнатоўскага», так і за «справай СВБ», наогул за ўсёй кампаніяй выкрыцця нацыянал - дэмакратызму ў Беларусі? Напэўна, інакш і быць не магло: галоўны архітэктар і кіраўнік палітычнага перавароту павінен быў пільна сачыць за ходай падзей на ўсіх вызначаных ім кірунках, асабліва на першапачатковым этапе, калі зыход усёй задумы быў яшчэ далёка не ясны.

Гэты ж факт, ад адваротнага, высвечвае і тую ролю, якая належала Ігнатоўскаму ў выпрацоўцы і ажыццяўленні нацыянальнай і культурнай палітыкі ў Беларусі. Змяніць яе, надаць ёй іншы змест і сэнс было немагчыма без папярэдняй нейтралізацыі аднаго з галоўных яе творцаў. Не выпадкова, што самагубства Ігнатоўскага напалохала-такі сталіністаў магчымым усплескам назадавальнення, прымусіла трохі прыцішыць кампанію выкрыцця нацдэмаўшчыны, часткова зняць і часткова змякчыць абвінавачванні ў яго адрас. За Ігнатоўскім пакідаюць толькі [illegible]ае: служыў прыкрыццём к[illegible]рэвалюцыйнай, буржуазна-нацыяналістычнай інтэлігенцыі.

Не рызыкнулі фальсіфікатары «справы СВБ», як гэта задумвалася, арганізаваць адкрыты судовы працэс над ім, адмовіліся ад [illegible]шапачатковага плана на [illegible]т «некалькіх сот чалавек», суровых мер пакарання.

Няўпэўненасць, аднак, цягнулася нядоўга. Рэжым асабістай улады набіраў моц, адпаведна таму нарошчвала абароты створаная ім прапагандысцкая і карная машыны. І ўжо можна было не турбавацца нават аб вонкавай праўдападобнасці абвінавачванняў як новых, так і ранейшых, што знайшло яскравы адбітак і ў ацэнках Ігнатоўскага. Так, у пастанове аб'яднанага пленума ЦК і ЦКК КП(б)Б (які адбыўся ў снежні 1933 года) чытаем: «У 1929—1930 гадах КП(б)Б выкрыла і разграміла нацдэмаўскую контррэвалюцыйную арганізацыю (Лёсік, Некрашэвіч, Краскоўскі і інш.), члены якой (Ігнатоўскі, Жылуновіч, Баліцкі, Адамовіч і інш.) пралезлі ў партыю і як правакатары, двурушнікі ажыццяўлялі на справе дырэктывы замежных капіталістаў, імкнучыся шляхам аддзялення Савецкай Беларусі ад Савецкага Саюза аддадзіць у Беларусі ўладу капіталістаў і памешчыкаў і ператварыць яе ў сваю калонію». Імя Усевалада Макаравіча яшчэ не раз прагучыць усё з тымі ж знішчальнымі эпітэтамі на публічных і патаемных працэсах, на розных пленумах і пасяджэннях другой паловы 30-х гадоў.

Цяжкі лёс напаткае сям'ю І. Ігнатоўскага. Загінуць у лагеры сыны Юрый і Валянцін. Сем год правядзе за калючым дротам Марыя Севасцьянаўна, але, адпушчаная на волю ў 1949 годзе з падарваным ушчэнт здароўем, яна неўзабаве памрэ. Цудам удалося ўцелець толькі старэйшаму сыну Міхаілу, які ў 1934 годзе тэрмінова паедзе з Мінска на Кузнецкбуд і такім чынам выслізне з поля зроку мясцовага АДПУ. Вернецца ён з сям'ёй на радзіму толькі ў 60-я гады. Па яго хадайніцтвах у 1956 годзе былі рэабілітаваны маці і браты. А вось праўдзівага слова пра бацьку, якому не здрадзіў, так і не дачакаўся: памёр Міхаіл Усеваладавіч у 1986 годзе.

У трагічнай лініі «абвастрэння класавай барацьбы» відавочная непасрэдная пераемнасць «справы СВБ» са сфабрыкаванай у 1937 годзе «справай» аб існаванні ў Беларусі аб'яднанага антысавецкага падпольнага нацыянал-фашысцкай арганізацыі на чале з кіраўнікамі рэспублікі М. Галадзедам, М. Гікалам і А. Чарвяковым. У ходзе чыстак і рэпрэсій рэспубліканская арганізацыя страціць больш за 40 працэнтаў сваіх членаў. Па няпоўных даных, у тыя гады было арыштавана больш за 90 членаў Саюза пісьменнікаў БССР, больш за 100 вучоных Акадэміі навук. Масавыя рэпрэсіі вынішчылі значную частку работнікаў мастацтва, касой прайшліся па настаўніцкай інтэлігенцыі.

Каб зразумець гэтую агульную трагедыю беларускай інтэлігенцыі і ў яе рэчышчы трагедыю У. Ігнатоўскага, трэба ўсвядоміць, што разгром нацыянал-дэмакратызму—з'ява не лакальная. Яна — лагічны вынік звышцэнтралізацыі, усталявання жорсткай бюракратычна-каманднай, казарменнай сістэмы наогул, заснаванай на рэжыме асабістай улады. Сталінская наменклатура з яе прынцыпам назначэння зверху не магла мірыцца з вылучэннем кадраў мясцовых. Вялікую небяспеку для яе ўяўляла і адукаваная інтэлігенцыя, якая вырасла на нацыянальнай глебе, выйшла з сялянства. Таму лагічна было першы ўдар нанесці менавіта па інтэлігенцыі: рускай, беларускай, грузінскай... па нацыянальных рэспубліках, чый суверэнітэт быў галоўнай перашкодай на шляху стварэння таталітарнай сістэмы, дзяржавы унітарнага тыпу. І таму лёс такіх людзей, як Ігнатоўскі, быў прадвызначаны.

...У далёкім 1931 годзе згас да пары ліхтарык яго жыцця. Здавалася, на векі вечныя паглынула яго цемра сталіншчыны. Але вось прайшоў час. І прыйшоў час. І яркія промні яго думак, яго спраў пранізалі імглу паўвекавога нябыту, хлусні, паклёпаў, далі новыя парасткі на глебе перабудовы. Вяртаюцца са спецсховішчаў да чытача яго працы, а некаторыя ўжо перавыдаюцца. Яны не састарэлі, яны патрэбныя нам і сёння. Адкрываюць архівы свае таямніцы, і са старонак дакументаў паўстае веліч яго ўкладу ў найвыдатнейшую справу, якой адзначаны гады 20-я,—справу беларусізацыі. Справу, вопыт якой так спатрэбіўся ў час новай хвалі адраджэння беларускай культуры.

Вяртаецца да нас з палону паклёпаў і нябыту Усевалад Ігнатоўскі, аб жыцці і дзейнасці якога будзе напісана не адна кніга.

**Іларыён ІГНАЦЕНКА, Аляксей КАРОЛЬ.**

**Заканчэнне.**
**Пачатак у №№ 44—48.**

## ПІШУЦЬ ЗЕМЛЯКІ

# ДУХ СТАЛІНІЗМУ, ПАГАРДЫ І ХЛУСНІ

Так можна коратка ацаніць нататку Васіля Петручука «У нас ніхто не пытаўся», змешчаную ў 36 нумары «Голасу Радзімы». І прашу вельмі сардэчна рэдакцыю «Голасу Радзімы» абавязкова надрукаваць і мой водгук на тую публікацыю. Нататка Петручука пахне варожасцю, нацыяналізмам і нянавісцю да нашых перамен і да новых улад у Польшчы. І гэтым ён яшчэ больш сее варожасць паміж беларусамі і палякамі, што жывуць на Беласточчыне. А гэтыя адносіны і так не найлепшыя. Петручук не можа дараваць, што Беласточчына апынулася ў складзе Польшчы, а не БССР. Відаць, ён хацеў, каб нашы людзі таксама былі прызваны на сталінскую мясарубку тады, у 1944 годзе, гэта значыць на «планавую» вайну, дзе замест таго, каб гінула ў баі прыкладна 100 байцоў — гінула 10 000. Ёсць у гэтым логіка? Напэўна — не! У сталінскай сістэме — так. І няхай ён запытаецца ў нашых людзей, хто з іх ахвотны прылучыцца да БССР і жыць па-савецку. Адказ будзе на 98 працэнтаў не ў яго карысць, і гэты працэнт людзей рашуча заявіць, што іх краінай з'яўляецца Польшча. Бо тут яны радзіліся, разбагацелі, амаль кожны селянін мае свой уласны трактар, машыны і дасканалыя дамы, сельскагаспадарчыя будынкі і жывы інвентар, а таксама свабоду. І самае галоўнае: мы не адракаліся сваёй роднай мовы, і ніхто нас не думаў і не думае асіміляваць, то ёсць апалячыць. А што тварылася ў «слаўнай» БССР у гэтым напрамку, хто там пачуе на вуліцы сёння родную беларускую мову? Усе чырыкаюць па-расейску. Што, мо няпраўда? Вось да чаго здольны камунізм: зняволіць не толькі маральнасць, але і душы чалавечыя. Гэта жах!

Нас жменька беларусаў на Баласточчыне ў Польшчы ў параўнанні з Савецкай Беларуссю, дзе пражывае каля 10 мільёнаў насельніцтва. Але мы больш маем беларускіх школ, чым цэлая БССР. Маем таксама і свой беларускі універсітэт у Варшаве, які ўзначальвае вядомы літаратар і вучоны Алесь Барскі. (Відаць, М. Панфілюк мае на ўвазе кафедру беларускай філалогіі ў Варшаўскім універсітэце.—**Рэд.**) В. Петручук не мае маральных правоў, каб свае нацыянальныя погляды і думкі выказваць за ўсіх беларусаў Беласточчыны. І няма чаго пісаць дурніцы і выдумкі, што мы настолькі «ахвотны» былі застацца ў БССР, толькі бяда нас пасцігла, бо нас сілай раздзялілі нейкія цёмныя сілы...

Калі Петручуку не падабаецца тое, што ў нас дзеецца, [illegible]лі ён такі «гарачы патрыёт» (а ў сапраўднасці сталін-[illegible] фанатык), дык ён павінен даўно выехаць, уцячы ад «праклятых» палякаў і пасяліцца на стала ў Савецкай Беларусі і там вясці сваю прапаганду. Шлях свабодны! Я згодны з ім, што за санацыяй мы жылі бедна і то вельмі. Але з голаду ніхто не ўміраў. Але як жылі людзі ў БССР у той час, перад вайной? У нас нявінныя не сядзелі па турмах. А што тварылася тады за мяжою—у БССР? Чаму [illegible]тручук ніколі не ўспамінае аб Курапатах і іншых мес[illegible]х злачынстваў сталінізму? Калі ён сябе лічыць літаратарам, дык чаму ён ніколі не заікнецца ні адным словам аб тых пісьменніках і паэтах, якіх сталінская сістэма знішчыла ў 30-я гады ў Беларусі? Самыя найлепшыя загінулі. А тое, што ў нас разбураюцца помнікі савецкіх воінаў і іншае (я супраць гэтага), дык палякі (не ўсе) навучыліся гэтага «рамясла» ад бальшавікоў, якія пасля «верасьнёўскага світанка» 1939 года захапілі заходнія тэрыторыі Польшчы і прысвоілі сабе, штучна называючы «вызваленнем Заходняй Беларусі», і тут яны—бальшавікі—маланкава разбуралі ўсё тое, што польскае: помнікі, прысвечаныя воінам, Пілсудскаму і іншае. Разбуралі касцёлы альбо ператваралі гэтыя святыні ў канюшні. А пасля дэпартацыя ў Казахстан і Сібір сотняў тысяч палякаў, а таксама нас, беларусаў-«кулакоў» і «ворагаў» новай сістэмы. І Катынь... І хаця ведаем і тое, што зло злом не пакарыш.

Дык якое павінна быць становішча ў канцы канцоў? Хто адкажа?

**Мікалай ПАНФІЛЮК.**

Польшча.

**АД РЭДАКЦЫІ: Мы таксама не ведаем, якое павінна быць становішча, таму друкуем (улічваючы дамаганні аўтара) гэты ліст чытача нашай газеты без каментарыяў. Хацелася б, каб гэта зрабілі за нас чытачы. Хтосьці падзяляе думку М. Панфілюка, а хтосьці пагодзіцца, напэўна, і з В. Петручуком.**

# З РОДУ ГАРТЫНСКІХ

Не зусім звычайны госць наведаў Магілёў. Інжынер з Францыі Гартынскі ўпершыню прыехаў на радзіму продкаў, старажытны род якіх адыграваў многія вякі прыкметную ролю ў жыцці горада.

Да прыкладу, гарадскім галавой у мінулым стагоддзі быў прадзед, Рыгор Гартынскі, які на ўласныя сродкі пабудаваў бальніцу для магілёўчан. Прапрадзед Мікалай Рыгоравіч стаў вядомы тым, што першым даследаваў, падрыхтаваў да выдання і выпусціў асобнай кнігай у 1887 годзе «Хроніку беларускага горада Магілёва» — унікальны мясцовы летапіс, які з 1526 года ахоплівае перыяд амаль тры з паловай стагоддзі. Звыш дзесяці магіл сям'і Гартынскіх, на якіх чыгунныя пліты з родавым гербам, і сёння можна ўбачыць на Успенскіх могілках Магілёва.

Пасля рэвалюцыі многія Гартынскія выехалі за мяжу, доўгі час жылі ў Югаславіі, дзе і нарадзіўся 56 гадоў назад Міхаіл Гартынскі. У Магілёў яго прывяло жаданне больш падрабязна даведацца пра гісторыю сваёй сям'і, удакладніць яе генеалагічнае дрэва. З дапамогай работнікаў абласнога краязнаўчага музея ён пазнаёміўся з многімі цікавымі дакументамі і старымі кнігамі, з горадам, дзе жылі многія пакаленні сям'і, пабываў на магілах продкаў. М. Гартынскі быў прыняты ў гарвыканкоме.

# URSS Y ARGENTINA AMPLIARAN LOS CONTACTOS

**Estoy muy satisfecho con los resultados de mi visita a la URSS y la conversación con el Presidente Gorbachov que considero fructíferos —dijo Carlos Menem, Presidente de la República Argentina—.**

— Hemos discutido el estado y las perspectivas de la colaboración argentino-soviética en distintos campos y llegamos a la conclusión que son prometedoras. Lo testimonian los documentos firmados en Moscú. Me refiero a la "Declaración sobre Principios de Colaboración entre la Argentina y la Unión Soviética", la cual he tenido el gusto de firmar junto con el Presidente Gorbachov, así como el convenio sobre cooperación en el campo de investigación y uso del espacio ultraterrestre con fines pacíficos; el acuerdo para la cooperación en los usos pacíficos de la energía atómica; y el convenio sobre cooperación para combatir el uso indebido y la producción y tráfico ilícito de estupefacientes.

Los dirigentes soviético y argentino no sólo examinaron las cuestiones de la colaboración bilateral, sino que también intercambiaron opiniones sobre la situación mundial. Los interlocutores fueron unánimes en que actualmente la ONU desempeña un gran y creciente papel.

De manera especial se refirieron a la situación en América Latina. En opinión de Carlos Menem, la situación en el continente es difícil. Pero el camino que se ha emprendido (el de la democratización y profundización de los procesos intergracionistas en la economía) es correcto. Mijaíl Gorbachov estuvo de acuerdo con que el continente emprende hoy un camino nuevo. Nuestras relaciones con los países de América Latina son buenas y nosotros las valoramos altamente y seguiremos desarrollándolas —dijo.

Ambos presidentes concordaron continuar los contactos tanto por medio de encuentros personales, como también por otras vías.

**Anatoli EFREMOV**

# Mo mentos de acuerdos concretos

**Parece que de las declaraciones generales sobre la necesidad del desarrollo de la colaboración bilateral y de las grandes perspectivas de los vínculos soviético-argentinos, los empresarios de Argentina y la URSS pasaron a acciones concretas. Testimonio de ello es la experiencia en la organización de encuentros de hombres de negocios de los dos países en Buenos Aires y Moscú.**

En el primer encuentro, celebrado en agosto, tomaron parte representantes de 22 empresas soviéticas y fueron suscritos 3 contratos y 45 protocolos de intención. En octubre viajaron a Moscú una cantidad aproximadamente igual de empresarios argentinos y, aunque todavía se desconoce la cantidad exacta de acuerdos concluidos, el encuentro de Moscú, a pesar de su brevedad —se prolongó apenas tres días— fue más fructífero.

Más de 500 empresas y cooperativas soviéticas de los sectores de refinerías de petróleo, minero, maquinaria y naval manifestaron interés por entablar nexos directos con empresarios argentinos. Argentina está dispuesta a suministrar a la URSS no sólo sus artículos tradicionales de exportación —trigo y carne—, sino de líneas automáticas para producir aríiculos farináceos, equipos modernos para molinos, frigoríficos y mucho más.

Estos encuentros fueron organizados por el Instituto de América Latina adjunto a la Academia de Ciencias de la URSS y la organización de investigación científica Fundación Mediterránea, los cuales intervinieron en la iniciativa de estudiar las posibilidades de la colaboración soviético-argentina.

El encuentro de hombres de negocios de Argentina y la URSS coincidió con la visita a Moscú del presidente Carlos Menem. Sin embargo, tras la simple coincidencia de tiempo se vislumbra una ligazón más profunda entre estos acontecimientos. Por más extraño que parezca, los procesos sociales que se registran en los dos países tienen mucho en común. Se trata del paso gradual a las formas y métodos democráticos de dirección del Estado, de la lucha contra la burocratización del aparato estatal, de los problemas relativos a la descentralización del poder político y económico, y el propio instituto del Estado como tal adquiere en estas condiciones rasgos nuevos y nada característicos.

Muchos empresarios argentinos señalan que les es fácil contactar con los colegas soviéticos, que con ellos se sienten a sus anchas. Estarán de acuerdo que ello infunde optimismo y la esperanza de que sean firmados nuevos contratos.

**Pável BOIKO**




*Las manifestaciones y huelgas ya dejaron de ser fenómenos antisociales, lo que ocurría antes, y se convirtieron actualmente en un hecho real de nuestra vida. Durante estos actos, en los cuales con frecuencia toman parte los diputados del pueblo de la R.S.S. de Bielorrusia, los participantes expresan su actitud hacia la situación política y económica que se viene creando en el país.*

*EN LA FOTO: en uno de los mítines.*

*Foto: A. TOLOCHKO.*

# Disparos en la Plaza Roja

**En la mañana del 7 de noviembre Alexandr Shmónov alcanzó la fama haciendo dos disparos en la Plaza Roja con su escopeta de dos caños. Un grupo compacto de agentes vestidos de civiles, lo levantaron en vilo y lo sacaron fuera del encuadre de las cámaras de TV.**

Exactamente a las seis de la mañana los sargentos Andréi Mílnikov y Serguéi Romanovski del 1-er regimiento de guardia y patrullaje del Comité Ejecutivo de Moscú ya se encontraban en el lugar de donde partirían las columnas del distrito capitalino Báumanski. Así era el procedimiento de siempre. Para que las numerosas columnas de manifestantes arriben a la Plaza Roja exactamente a la hora fijada sin estorbar a las demás ni cruzarse, cada una de ellas es acompañada por un carro de la militsia (policía), el cual controla la velocidad de la marcha. A las 9:40 la columna se puso en marcha. Los representantes de este distrito avanzaban por la Plaza Roja en octava columna, o sea, en la más próxima a los Grandes Almacenes. Cuando la columna llegó al Mausoleo, Mílnikov se separó de ella y se detuvo observando a los que pasaban a su lado. Así era la orden. Llevaba su capote de uniforme con cinturón ancho, su gorra con la escarapela y un walkie-talkie... Aquel día tenía prohibido portar armas.

No estuvo parado mucho tiempo. El carillón de la Torre del Salvador marcaba las once y diez...

...Según parece, Shmónov no se dio cuenta de la presencia del agente uniformado. Cuando estuvo a unos dos metros de éste Shmónov de un tirón desabrochó su abrigo con la mano izquierda y con la derecha sacó su escopeta de culata recortada, apuntándola hacia alguien de los presentes en el Mausoleo... Según explicó más tarde Victor Chiguishov, jefe del 1-er regimiento y un cazador apasionado, aquella escopeta era un arma bastante poderosa y de gran precisión: puede matar a un alce a 150 metros de distancia. Y hasta la tribuna no había más de cincuenta metros. La reacción de Mílnikov fue instantánea: agarró la escopeta por el cañón y la desvió hacia arriba, dirigiendo el disparo al aire. Luego tiró de la escopeta hacia sí y para abajo, dirigiendo el caño hacia los Grandes Almacenes. Allí había un cordón de agentes, también vestidos de civiles. Así era la regla. Estos se dispersaron y algunos se tiraron al suelo. El segundo disparo dio en tierra.

Mílnikov pensó que a su lado podía haber cómplices armados, pero ya no tenía tiempo para reflexionar.

Al librarse de la instantánea estupefacción acudieron en su ayuda tres cadetes de la Escuela Superior de la Militsia, que formaban el cordón, y dos agentes de la dirección del MININT del distrito Bábushkinski, también vestidos de civiles. Acudieron en ayuda otras personas que estaban al lado. Todos ellos se abalanzaron sobre Shmónov y lo inmovilizaron.

Nuestro corresponsal se entrevistó con tres agentes del servicio de seguridad del KGB de la URSS, que participaron en la detención de Shmónov (pidieron no mencionar sus nombres). Según la versión de ellos, después del segundo disparo uno de los agentes, que se encontraba a diez metros de Shmónov, corrió hacia el terrorista y lo agarró del brazo. Io mismo hizo el segundo. El tercero lo atenazó, y entre los tres lo trasladaron en dirección a los Grandes Almacenes.

— Temíamos que en su cuerpo pudiera haber algún explosivo —dice uno de los agentes que detuvieron a Shmónov—. Al levantarlo en vilo notamos que por debajo del abrigo su cuerpo estaba vendado. Más tarde supimos que debajo de las vendas llevaba un chaleco antibala, confeccionado por el propio Shmónov de una gruesa capa de fieltro.

Los agentes del KGB coinciden en la opinión de que con su escopeta Shmónov bien podía ultimar a cualquiera de los que se hallaban en la tribuna del Mausoleo. El terrorista llevaba un estuche para municiones, pero no se logró encontrar ni una de ellas.

En fin, Shmónov fue sacado a la fuerza de la plaza, y el sargento de primera Mílnikov se quedó allí con la escopeta. Había cumplido su deber, pero no podía abandonar el puesto de guardia sin la orden correspondiente. Las columnas festivas pasaban a su lado, dirigiéndole bromas al extraño guardia, que se sentía un tanto turbado. Por fin, se comunicó con el oficial de guardia y le preguntó qué debía hacer. Al pasar otros cinco minutos se le acercó un hombre quien se identificó como teniente coronel del KGB y se llevó la escopeta. Luego a Mílnikov lo citaron a uno de los cuartos de los Grandes Almacenes y le ordenaron redactar un informe acerca de lo ocurrido. Allí mismo se encontraba Shmónov. El sargento dice que oyó muy claramente como respondiendo a una de las preguntas el terrorista declaró: "Quería matar a Gorbachov".

Al día siguiente Mílnikov fue gratificado con una entrada al concierto dedicado al Día de la Militia.

**Vladímir KISELIOV, Dmitri SIDOROV.**

# Un taller antiguo en una escuela

Las clases de literatura bielorrusa en la escuela secundaria Nº 54 de Minsk se dan en una atmósfera muy singular: el aula de estudios es copia de una tipografía de la época medieval. Allí se conservan fotocopias de las obras impresas de Francisco Skorina, diversos documentos que relatan sobre la vida del ilustrador y primer impresor bielorruso.

Este gabinete-museo es fruto de la fantasía y el trabajo de los alumnos de la escuela. De esta forma ellos decidieron festejar el 500 aniversario del gran humanista. A tal efecto, en su tiempo libre tuvieron que visitar bibliotecas, institutos, museos; entrevistarse con científicos, historiadores y literatos. Además, les ayudaron en esta noble tarea destacados investigadores de la vida y obra de Skorina como los bielorrusos Viacheslav Chemeritski y Adan Maldis, así como un grupo de pintores encabezado por Vladímir Bertash.

La inauguración del museo se convirtió en una verdadera fiesta. Los guías escolares relataban la biografía de Francisco Skorina, dando a conocer en forma detallada su actividad y la de sus seguidores. Luego, los niños ofrecieron un pequeño espectáculo sobre la vida del primer impresor, en base a un guión escrito por Alexandr Petrashkévich, destacado dramaturgo bielorruso. A este acto inaugural asistieron numerosos escritores y científicos. La mayoría de ellos creyó conveniente donar algún material para el museo ya sea un libro, un grabado, o una foto, etc.

El broche de oro de la celebración fue un concierto improvisado de canciones bielorrusas antiguas y modernas.

En la actualidad el museo está abierto para todo el público. Allí dan clases de literatura e historia bielorrusas maestros de otras escuelas de Minsk, quienes traen al museo a sus educandos.

La creación de este museo demuestra que a la joven generación bielorrusa no le es indiferente todo lo relacionado con su cultura nacional.

**Natalia ANATOLIEVA**

Redactor de la página: K. SHELESTOVICH

## *СТВАРАЕЦЦА ЗГУРТАВАННЕ БЕЛАРУСКІХ ДВАРАНАЎ-ШЛЯХТЫ*

# «ХАЧУ ВЕДАЦЬ, СКУЛЬ Я, ЯКОГА РОДУ...»

**З выкладчыкам Мінскага педагагічнага інстытута, філолагам, краязнаўцам і адным з ініцыятараў стварэння Згуртавання беларускіх дваранаў-шляхты Леанідам АКАЛОВІЧАМ гутарыць наш карэспандэнт Таццяна АНТОНАВА.**

**— Прыблізна з паўгода назад прэса паведаміла, што нашчадкі беларускай шляхты «выйшлі з падполля» і маюць намер стварыць сваю арганізацыю з даволі шырокай праграмай дзейнасці. Паведамленне было незвычайным і хутка абляцела краіну, а таксама і замежжа. Да нас нядаўна прыйшоў ліст ад суайчынніцы з Бельгіі, якая хоча даведацца пра паходжанне свайго роду. Перадаю ліст вам, тут ёсць некаторыя звесткі аб продках нашай зямлячкі. Можа быць, вы зможаце ёй неяк дапамагчы. І адначасова запытаюся: ці многа людзей — нашчадкаў беларускіх шляхецкіх дынастый адгукнулася!**

— Мы маем вялікую пошту. Пішуць і тэлефануюць нам з розных куткоў Беларусі, адгукнуліся нашчадкі беларускіх дваранскіх дынастый з Масквы, Ленінграда, Сібіры, Далёкага Усходу, Крыма і іншых месцаў. Па ўсім свеце раскідаў лёс беларусаў. Нам прыслалі весткі князі Абаленскія, Бельскія, у Менску жывуць Гедыміны, Гедройцы, Жыжэмскія, адгукнуліся нашчадкі Свірскіх, Святаполк-Мірскіх, Трызнаў, а таксама Станіслаў Скарына з Канады — прамы нашчадак славутага першадрукара, чыё 500-годдзе так урачыста і шырока адзначалася сёлета шмат дзе... З Францыі падалі голас нашчадкі Дараганаў. Да нас звяртаюцца людзі, якія маюць такія-сякія звесткі пра сваіх продкаў і хацелі б неяк удакладніць іх. На вялікі жаль, вельмі многія беларусы, і сярод іх таксама тыя, хто належыць да славутых родаў, пачуваюцца «бязроднымі Іванамі», не ведаюць нічога пра тое, дзе жылі іх продкі, кім яны былі, што зрабілі на карысць сваёй зямлі. А гэта жахліва, бо такі чалавек не пазбаўлены комплексу непаўнацэннасці. Як быццам людзям адбілі памяць. Яны сіляцца нешта прыгадаць, узнавіць, але... Не захавалася ні метрык, ні рэчаў, ні фотаздымкаў. Паходжанне «з дваранаў», як мы ведаем, у краіне дыктатуры пралетарыяў пагражала ўсялякімі непрыемнасцямі. Гэтаму класу рэвалюцыйным пралетарыятам быў аб'яўлены тэрор. Некаторыя вымушаны былі падацца ў эміграцыю, некаторыя апынуліся ў далёкай Сібіры. Ну а тыя, «са шляхты», што неяк прыстасаваліся да новага жыцця, палічылі за лепшае знішчыць усе паперы, якія сведчылі пра іх прыналежнасць да дваранства, і развіталіся з родавымі каштоўнасцямі, што так ці інакш маглі даказаць іх «варожае» паходжанне. Вінаваціць у гэтым ніяк нельга нашчадкаў нашага дваранства ці шляхты, яны вымушаны былі гэта зрабіць, каб хоць захаваць сваё фізічнае жыццё.

**— Леанід Аляксандравіч, дык «шляхта» ці «дваране»! Нават у назве згуртавання гэтыя два словы ідуць праз злучок. Растлумачце, чаму!**

— Мы прыйшлі да кампрамісу: выкарыстоўваць у афіцыйнай назве згуртавання два словы — «дваранаў-шляхты». Справа ў тым, што як увесь беларускі народ, так і яго дваранства-шляхта было падзелена на дзве часткі — беларусаў праваслаўных і беларусаў католікаў. Адны, такім чынам, хочуць называцца дваранамі, а другія — шляхтаю. Каб паяднаць у рэлігійных адносінах тых і другіх, даводзіцца карыстацца пакуль падвоенай назвай. Дарэчы, падзел гэты ідзе з глыбокай старажытнасці. Адны лічаць, што першаснай была менавіта шляхта, я на баку тых, хто перакана,ны, што першасным было дваранства. Шляхта з'явілася на Беларусі пасля Гарадзельскай уніі 1413 года. Тады 46 родаў тагачаснага дваранства Вялікага княства Літоўскага ўзялі сабе гербы і сталі пабрацімамі польскай шляхты. А да гэтага ж у нас былі і свае баяры, і дваране, князі полацкія, якія мелі свае знакі, выявы, што адлюстраваны ў іх гербах. І старажытная беларуская мова сведчыць пра існаванне гаспадарскіх і каралеўскіх дваранаў, зямянаў побач са шляхтаю.



Нашчадак князёў Абаленскіх Арвід Рольф-Гульбек жыве ў Нарвегіі. Аб бядотным становішчы маленькіх пацыентаў бальніц Гомельшчыны ён пачуў на сустрэчы з прадстаўнікамі фонду «Дзеці Чарнобыля» ў Осла. Расказ відавочцаў настолькі ўразіў нарвежскага бізнесмена, што ён сам захацеў убачыць бяду, што прыйшла на беларускую зямлю пасля аварыі на ЧАЭС.
На Гомельшчыну Рольф-Гульбек прыехаў не з пустымі рукамі. Два партатыўныя пераносныя электракардыёграфы самай сучаснай мадыфікацыі, набытыя на асабістыя сродкі, былі перададзены ў дар Гомельскай абласной дзіцячай бальніцы.

**— Уся наша гістарычная навука і літаратура, як вядома, былі накіраваны на тое, каб словы «дваранства», «шляхта» ўспрымаліся сучаснікамі з нейкім негатыўным адценнем. Маўляў, «крывасмокі», «прыгнятальнікі», «ворагі», «ліхадзеі». Стэрэатыпы выхавання моцныя. «Кепскія» дваране і вобраз беднай, «забітай», лапцюжнай Беларусі моцна заселі ў свядомасці. Можа быць, менавіта таму неадназначна было ўспрынята ў грамадстве стварэнне Згуртавання беларускіх дваранаў-шляхты. Некаторыя нават з'едліва прадракаюць, што вось вернуцца назад паны, пазабіраюць свае маёнткі і палацы і пакажуць тады, хто тут гаспадар...**

— Дваранства, шляхта была найбольш адукаваная, свядомая частка народа. У яе, бясспрэчна, як у класа, былі свае інтарэсы. Але яна дбала і пра свой народ. Калі гаварыць пра XIX стагоддзе, то беларуская культура, літаратура ствараліся менавіта ў асяроддзі дваранства. Беларускія пісьменнікі былі пераважна са збяднелай шляхты. Варта толькі прыгадаць прозвішчы Абуховіч, Багушэвіч, Вярыга - Дарэўскі, Дунін-Марцінкевіч, Каліноўскі, Гурыновіч, Луцэвіч (Купала), Пашкевіч (Цётка) і іншыя. І каго ні возьмеш у дарэвалюцыйнай беларускай літаратуры — гэта найбольш выхадцы якраз з дваранска - шляхецкіх родаў. Яны ўнеслі значны ўклад у развіццё нацыянальнай культуры (Абрамовіч, Альхімовіч, Аляшкевіч, Буйніцкі, Булгак, Бялыніцкі-Біруля, Ваньковіч...).

Калі-нікалі яшчэ пачуеш, як некаторыя айчынныя невукі пішуць, што, маўляў, не было ніякай гісторыі Беларусі, ды і самой Беларусі не было. А якраз гісторыя Беларусі стваралася ад часоў Полацкай зямлі, ад Вялікага княства Літоўскага, дзе значную ролю адыгрывала беларуская шляхта.

Ведаючы і памятаючы пра заслугі дваранаў-шляхты, што імі зроблена, які ўклад унесены ў агульную культуру і агульны нацыянальны скарб, я думаю, ёсць сэнс чакаць пэўнай аддачы і ад нашчадкаў дваранства-шляхты.

**— Якую рэальна місію, на ваш погляд, павінны выканаць нашчадкі некалі славутых дынастый!**

— Якая найпершая задача стаіць перад беларускай нацыяй? Адраджэнне. Беларусы ў рэшце рэшт павінны зразумець, што ім ёсць чым ганарыцца, што маюць яны і сваю гісторыю, і літаратуру, і культуру, і звычаі, і традыцыі, і песні. І продкамі сваімі ім трэба ганарыцца. Шанаваць іх памяць, працягваць іх справы. Нашчадкі беларускай шляхты, нашы з вамі сучаснікі, — грамадскія дзеячы, вучоныя, артысты, спевакі, музыканты, мастакі, пісьменнікі, інжынеры, рабочыя, сяляне, кім бы яны ні былі, усё ж могуць, прыклаўшы намаганні, узнавіць свой радавод, сваё генеалагічнае дрэва. Важна тут тое, што чалавек як бы становіцца далучаным да мінулага, да добрых спраў продкаў. З вінціка агромністага механізма, з безаблічнай істоты ён ператвараецца ў асобу, на якой ляжыць гонар за славутых продкаў і пачэсны абавязак перад імі і нашчадкамі — мацаваць дабрабыт сваёй Айчыны, спрыяць ёй, дзе б ты ні быў.

**— А якія мэты ставіць перад сабой Згуртаванне беларускіх дваранаў-шляхты!**

— Мы — за дэмакратызацыю нашага грамадства. За шматпартыйнасць. За гуманізацыю ўзаемаадносін чалавека з дзяржавай. За тое, каб Беларусь заняла належнае месца сярод цывілізаваных краін. За рэальны суверэнітэт рэспублікі.

Ад падрыхтоўчага этапу пяройдзем да стварэння цэнтралізаванай арганізацыі са сваёй структурай, а затым на яе аснове сфарміруем агульнанацыянальнае аб'яднанне, якое, думаецца, будзе здольным разгарнуць свае ўнутраныя задаткі і магчымасці, аказваць пэўны згуртавальны ўплыў на грамадска-палітычны і культурны клімат у рэспубліцы.

Дзеля ажыццяўлення ўсіх гэтых мэт нам вельмі неабходна мець свой друкаваны орган. У газеце «Беларускі радавод» мы будзем мець магчымасць апублікаваць спісы дваранства Беларусі. Па былых губернях. Другая задача — выдаваць гербоўнікі, радаводы. Амаль кожны дваранін меў свой уласны герб. Давесці, якога герба быў той ці іншы род. Таму што людзі з адным прозвішчам маглі мець розныя гербы, папершае. А па-другое, носьбіты гэтага ж прозвішча маглі паходзіць з розных мясцін. Тут нам і дапамогуць выдадзеныя гербоўнікі, іх, дарэчы, вядома ў нас два — Аршанскі і Віцебскі. А тады радаводныя табліцы-кнігі з архіваў, дзе намаляваны радаводныя дрэвы, у якія можна ўнесці сваё імя, сваіх дзяцей і ўнукаў.

**— Наколькі я разумею, шаноўны Леанід Аляксандравіч, у згуртаванні вы — галоўны герольдмайстар. Ці можаце вы даць параду нашым чытачам, як стварыць сваё радаводнае дрэва, як адшукаць свае карані!**

— О, не такая гэта простая справа. Трэба скласці генеалагічную картку, генеалагічнае дасье і генеалагічную табліцу, дзе неабходна мець звесткі па дзесятках пытанняў. Памочнікі тут — архівы, друкаваныя і рукапісныя крыніцы, успаміны родных і блізкіх людзей. У прынцыпе, пры наяўнасці некаторых абавязковых звестак зрабіць гэта можна. Але мая задача значна шырэйшая, чым складанне асобных радаводаў. Трэба сабраць генеалагічнае дасье, якое складзе фонд нацыі. У кожным жа родзе перакрыжоўваюцца некалькі родаў, значыць, трэба і асноўную, і пабочную лініі распрацоўваць. І гэта прывядзе да таго, што будзе больш матэрыялаў пра сваякоў. Па бацькоўскай і матчынай, па бабчынай і дзедавай лініях. Найперш і найхутчэй трэба кожнаму сабраць арыгіналы ці копіі метрык аб нараджэнні, пасведчанняў аб шлюбе і смерці; запісаць успаміны старэйшых у родзе пра ўсіх сваіх нашчадкаў з фіксацыяй дат жыцця, месца нараджэння, імёнаў і прозвішчаў нашчадкаў і іх родасных адносін, якія займалі пасады, які ўклад унеслі ў справу роднага ці суседніх краёў.

**— А як стаць членам згуртавання!**

— Мы падрыхтавалі праект Статута згуртавання, які прадугледжвае, што яго членам можа стаць любы нашчадак, які мае паходжанне з дваранска-шляхецкага роду Беларусі.

Статут, між іншым, узнік не на голым месцы. Я маю копію Статута, які быў ужо створаны дваранамі Менскай губерні ў 1917 годзе, напярэдадні Кастрычніцкай рэвалюцыі.

Дык вось, згодна Статуту, членам нашага згуртавання можа быць як той, хто жыве цяпер у Беларусі, так і той, хто апынуўся далёка за яе межамі. Але перш за ўсё для гэтага трэба вызначыць сваю ўласную прыналежнасць да роду і сацыяльнага стану да 1917 і 1939 гадоў. І ў гэтым галоўная складанасць. Бо часцей за ўсё паперы аказваюцца страчанымі, знішчанымі, спаленымі.

Калі хто зацікавіўся сваім паходжаннем і калі дашле добра складзены радавод ад сённяшняга дня да пачатку ці хоць бы сярэдзіны XIX стагоддзя, указаўшы месца жыхарства (губерню) і даты жыцця продкаў, то таму можа дапамагчы генеалагічная (радаводная) камісія «Беларускі радавод» пры Згуртаванні беларускіх дваранаў-шляхты. Даць кансультацыі, парады можам не толькі нашчадкам княжацкіх, графскіх, баронскіх, дваранска-шляхецкіх родаў, але і цікаўным з іншых сацыяльных станаў (мяшчанам, купцам, сялянам, службоўцам) з абавязковым указаннем выяўленага стану, месца жыхарства (горад, мястэчка, вёска, хутар), да маёнтка якога пана належалі і якога павета. Нам вядома, што на Беларусі пры пачатку XX стагоддзя паводле губернскіх дваранскіх радаводных кніг было больш за 6 000 родаў, зацверджаных дэпартаментам герольдыі, з іх каля 30 княжацкіх, каля 20 графскіх, каля 10 баронскіх, каля 10 замежных, каля 20 татарскіх. Паводле законаў 1899 года, дваранскія радаводныя кнігі губерні дзяліліся на 6 частак: у 5-ю частку заносіліся тытулаваныя роды (князі, графы, бароны), у 4-ю — замежныя роды, у 2-ю — вайсковае дваранства, у 3-ю — выслужанае пры расійскай імперыі; у 6-ю — найбольш старадаўняе мясцовае высакароднае дваранства, а ў 1-ю частку — астатняе мясцовае дваранства. Значная частка беларускай шляхты і выбранцаў не была пацверджана ў дваранстве, але справы пра іх захаваліся (хоць і не так поўна па ўсіх губернях).

Нашчадкі беларускіх дваранаў і шляхты, гуртуючыся самі, павінны дапамагчы ўсвядоміць свае карані ўсім беларусам і іх прыхільнікам у справе адраджэння сваёй нацыі, гісторыі і культуры Беларусі. Спадзяёмся на ўзаемапаразуменне, узаемападтрымку духоўную і матэрыяльную (камп'ютэр, ксеракс, напрыклад) свядомых суайчыннікаў, землякоў у Беларусі і ў свеце. У першую чаргу ствараем банк прозвішчаў шляхецкага паходжання, збіраем гісторыю родаў, літаратуру пра шляхту і дваранства, каб стварыць энцыклапедыю беларускіх дваранаў-шляхты.

## НАШ КАЛЯНДАР



*Да 60-годдзя з дня нараджэння Уладзіміра КАРАТКЕВІЧА*

**Сёлета споўнілася 60 гадоў, як нарадзіўся Уладзімір Караткевіч — паэт, празаік, публіцыст, гісторык, сумленны грамадзянін беларускага народа, які, бадай, адзін з тых нямногіх сярод сваіх аднагодкаў зразумеў і адчуў важнасць ідэі нацыянальнага адраджэння.**

Мы можам толькі здзіўляцца мужнасці пісьменніка. Адкуль, на чым трымалася вера маладога Караткевіча ў будучае нацыянальнае адраджэнне — у тыя, як цяпер прынята казаць, застойныя шасцідзесятыя гады, калі Беларусь, па задуме тагачасных дзяржаўных кіраўнікоў, павінна была адной з першых рэспублік апынуцца ў «светлым камунізме», бо паслухмяныя працавітыя беларусы надта ўжо цураліся сваёй мовы?.. У зборніках паэзіі «Матчына дума», «Вячэрнія ветразі», у кнігах прозы «Блакіт і золата дня», «Нельга забыць», «Каласы пад сярпом тваім», «Хрыстос прызямліўся ў Гародні», у п'есах, нарысах, сцэнарыях да фільмаў — усюды Караткевіч па-мастацку пераконваў землякоў: без гістарычнай памяці, без пачуцця любові да роднага краю, без бацькаўшчыны мы не выжывем, мы простаператворымся ў шматслоўнае быдла, якое з веку ў век будуць пасвіць разумныя «пастухі».

Апошнія гады славы наўрад ці загладзілі рубцы больш ранніх часоў, калі героям Караткевіча абвінавачвалі ў «духоўным убостве», а творы — у адсутнасці набалелых сучасных пытанняў. Сёння зразумела, што актуальнасць закранутых пісьменнікам праблем не зменшыцца яшчэ на працягу многіх гадоў, што творы яго скіраваны на маральнае ўдасканаленне кожнага і ўсіх, вяртаюць да вытокаў, ратуюць ад забыцця і поўняць верай.

Узнаўляючы забытыя гераічныя падзеі мінулага, ствараючы сваю — мастацкую гісторыю Беларусі, многае ў якой склала б гонар любога народа, У. Караткевіч імкнецца абудзіць нас, сённяшніх, сонных, абыякавых, ад манкурцтва, нацыянальнага нігілізму. З гэтай мэтай ён звяртаецца да драматычных сітуацый, якіх выпадала мноства на кожнае стагоддзе,— і славутых, і малавядомых, пачэрпнутых з летапісаў, хронік, старажытных актаў, архіўных дакументаў, гістарычнай літаратуры, фальклорных легенд, паданняў, песняў. Творца ажыўляе іх праз слова і вобраз, рэаліі эпохі, быт, данасячы да сучаснікаў думку аб паўнакроўным, паўнацэнным, шматвяковым самастойным існаванні беларускага народа.

Галоўны, непераўзыдзены інтарэс мастака — родная Беларусь з яе шматпакутнымі гісторыяй і сучаснасцю, людзьмі, фальклорна-легендарным арэолам. Ад яе, праз спасцiжэнне свайго, нацыянальнага, ступіў У. Караткевіч на шырокі шлях агульначалавечага, на «Бясконцы Тракт Неўміручасці», кінуўшы на развітанне простыя словы запавету, правa на якія заўсёды маюць Першыя:

**О простыя зямлі,**
**падайце рукі**
**Адзін другому з братняю**
**любоўю.**

*З КНІЖНАЙ ПАЛІЦЫ*

# АНТАЛОГІЯ НАЦЫЯНАЛЬНАГА ТАНЦА

Юлія Чурко добра вядомая ў рэспубліцы і за яе межамі як высокаэрудзіраваны і ўдумлівы даследчык. Ёй пяру належыць шэсць кніг і шматлікія артыкулы ў цэнтральным і рэспубліканскім друку, якія з'яўляюцца, бадай, асноўнымі працамі па нацыянальнаму харэаграфічнаму мастацтву. З вялікім задавальненнем я пазнаёмілася з новай манаграфіяй Ю. Чурко аб беларускім харэаграфічным фальклоры.

Удзельнічаючы ў стварэнні некалькіх нацыянальных балетаў на сцэне беларускага тэатра, а потым працуючы педагогам і рэпетытарам у ансамблі «Харошкі» і іншых калектывах, я на ўласным вопыце пераканалася, як неабходна харэографам веданне сапраўднага народнага танца, наколькі каштоўная кожная фальклорная крупінка. Бо менавіта з народнай творчасці вырастаюць сцэнічныя творы — асобныя нумары і цэлыя балеты, якія затым захапляюць самую патрабавальную публіку.

Вялікія прафесіянальныя калектывы (дзе ёсць графік канцэртных выступленняў і жорсткі план працы) часцей за ўсё не ў стане самі праводзіць фальклорныя экспедыцыі, шукаць у вёсках патрэбныя ім матэрыялы. Гэта ж складаная, доўгая праца, якая патрабуе арганізацыйных клопатаў, фінансавых затрат, энтузіязму. Атрымаць жа аднекуль гэтыя матэрыялы немагчыма, таму што ў нас няма практычна зборнікаў харэаграфічнага фалі[illegible]ру (работ па вуснай паэтычнай і музычнай творчасці выдадзена ў рэспубліцы, між тым, многа). Гэтым, як справядліва і піша Ю. Чурко, зрэшты, і тлумачыцца той факт, што некаторыя пастаноўшчыкі, не ведаючы сапраўднага фальклору, проста запазычваюць адзін у аднаго гатовыя формы і прыёмы. Але мала заўважыць нейкі недахоп, добра, калі крытык ці даследчык могуць дапамагчы яго ліквідаваць, прапанаваць канкрэтнае выйсце з сітуацыі. У манаграфіі Ю. Чурко гэта і робіцца. Яна не толькі аналізуе шляхі і метады сцэнічнага ўвасаблення ўзораў народнай харэаграфіі, абагульняе вопыт лепшых балетмайстраў Беларусі, але і дае вялікую колькасць запісаў сапраўдных фальклорных танцаў, карагодаў, полек, кадрыляў... Прычым, многія з іх забяспечаны нотамі, малюнкамі, чорна-белымі і каляровымі фатаграфіямі.

Кніга з'яўляецца своеасаблівай анталогіяй беларускай харэаграфіі. Больш за 20 гадоў назад Ю. Чурко пачала ездзіць па Беларусі ў пошуках танцавальнага фальклору, пакінуўшы сцэну мінскага опернага тэатра, дзе, дарэчы, яна паспяхова выконвала сольныя партыі. Вынікі яе першых фальклорных экспедыцый былі сабраны ў кнізе «Беларускі народны танец», апублікаванай у 1972 годзе. Пасля гэтага Ю. Чурко ў Мінскім інстытуце культуры арганізавала навукова-даследчую лабараторыю беларускай танцавальнай творчасці, якая збірае, запісвае, здымае на кіна- і відэаплёнку народную харэаграфію, выдае зборнікі, перадае матэрыялы педагогам і студэнтам кафедры харэаграфіі, навучэнцам культасветвучылішчаў, самадзейным і прафесіянальным харэографам.

Многія з запісаў затым узнаўляюцца, апрацоўваюцца і паказваюцца на штогадовых фальклорных канцэртах кафедры, куды прыходзяць, нягледзячы на тое, што дэманструюцца ўсяго толькі студэнцкія пастаноўкі, многія прафесіяналы, кіраўнікі танцавальных калектываў.

Кніга Ю. Чурко напісана як бы на стыку трох навук — фалькларыстыкі, мастацтвазнаўства і эстэтыкі. Такое спалучэнне асабліва каштоўнае, бо яно бывае далёка не заўсёды... Фалькларысты часта адмаўляюць магчымасць мастацкай трансфармацыі фальклору ці ацэньваюць сцэнічны твор толькі з пазіцый чысціні захавання фальклорных традыцый, што ў прынцыпе няправільна. А мастацтвазнаўцы, не заўсёды глыбока ведаючы фальклор, забываюць пра яго як пра аснову для народна-сцэнічнай харэаграфіі. У кнізе захавана адзінства між гэтымі дзвюма навукамі — фалькларыстыкай і мастацтвазнаўствам, што дазваляе чытачам зразумець усю каштоўнасць фальклору як эстэтычнай з'явы, помніка народнай культуры, і ў той жа час ацаніць яго [illegible]энне як крыніцу выразных сродкаў для сцэнічнай харэаграфіі.

Чытаючы кнігу, я пашкадавала, што частка яе, прысвечаная балетнаму тэатру, вельмі кароткая. Хацелася б больш падрабязна даведацца, як ацэньвае аўтар выкарыстанне традыцый фальклору ў нацыянальных балетах і, у прыватнасці, апошніх работах нашага тэатра. Я згодна з аўтарам, што сучасныя харэографы неяк страцілі сувязь з народным танцам, якая так ярка была відаць у працах А. Ярмолавай, К. Мулера, а балет страціў частку сваёй нацыянальнай самабытнасці. Аб гэтым варта было б задумацца стваральнікам балетных спектакляў.

Але, вядома, кніга Ю. Чурко нясе ў сабе шмат інфармацыі не толькі для спецыялістаў, яна будзе цікавай для ўсіх, хто любіць мастацтва танца, хто цэніць народную творчасць. І не толькі беларускую. Большая частка кнігі прысвечана старажытным, традыцыйным танцам і карагодам. А яны, як вядома, нясуць у сабе рысы, уласцівыя многім славянскім народам. Думаецца, што гэтая кніга будзе цікавай многім чытачам і за межамі нашай рэспублікі. Шкада толькі, што тыраж да смешнага малы: яго не хопіць нават для тых, хто непасрэдна займаецца народным танцам. Застаецца спадзявацца на хуткае яе перавыданне.

**Н. ДАВЫДЗЕНКА,**
**народная артыстка БССР.**

## ФЕСТЫВАЛЬ МАСТАЦТВАЎ

# МЕЛОДЫІ СЛАВУТАГА ФЕСТЫВАЛЮ




Як звычайна, у апошнюю дэкаду лістапада фестываль «Беларуская музычная восень» запрасіў усіх знатакоў мастацтва на сустрэчу з любімымі музыкантамі, спевакамі, танцорамі.

Для мастацтва цяпер не самы лепшы час. Толькі ўспаміны захаваліся аб многіх некалі славутых на ўсю краіну музычных фіестах. Наша «Восень» засталася. У чым жа сакрэт яе папулярнасці і даўгалецця? Ёсць у беларускага фестывалю адна выдатная традыцыя — ён заўсёды быў інтэрнацыянальным. Вось і на гэты раз у Беларусь прыехалі вядомы малдаўскі калектыў «Флуераш», камерны ансамбль «Іберыя канцорт» з Грузіі, маладыя ленінградскія кампазітары, вельмі цікавыя музыканты Рэна Ісмайлава і Арыф Манафлы з Азербайджана, цыганскі ансамбль «Рамэн», Дзяржаўны сімфанічны аркестр пад кіраўніцтвам Паўла Когана, амерыканскі піяніст Дэрэк Хан, Дзяржаўная акадэмічная руская харавая капэла імя А. Юрлова. Усе гэтыя вядомыя выканаўцы адгукнуліся на запрашэнне Беларусі, думаецца, яшчэ і таму, што многа чулі пра беларускага гледача — патрабавальнага і гасціннага. Беларускія артысты, у сваю чаргу, падрыхтавалі да фестывалю арыгінальную і разнастайную праграму. Выступленні вядомых ансамбляў — «Сябры», «Чараўніцы», «Свята», Мінскага дзяржаўнага камернага хору і Дзяржаўнага акадэмічнага народнага хору прайшлі пад знакам нацыянальнага адраджэння. Адзін з канцэртаў майстроў мастацтваў Беларусі быў прысвечаны 500-годдзю з дня нараджэння Францыска Скарыны.

Палітра фестывалю была надзвычай разнастайная. Хаця і дамінавала сур'ёзная музыка, але гучала і эстрада, і джаз, і народныя мелодыі. Адбылася музычная прэзентацыя першага ў рэспубліцы аркестра духавых інструментаў «Няміга».

Сёлетняя «Беларуская музычная восень» была цікавай для людзей самых розных мастацкіх прыхільнасцей і густаў. Маршруты фестывалю прайшлі праз усе абласныя гарады, дзесяткі райцэнтраў. Усяго адбылося каля 300 канцэртаў. Такое свята не можа надакучыць.

**НА ЗДЫМКУ: мастацкі кіраўнік і галоўны дырыжор Дзяржаўнага сімфанічнага аркестра Павел КОГАН, кампазітар Андрэй ПЯТРОЎ і амерыканскі піяніст Дэрэк ХАН пасля аднаго з канцэртаў.**

**Фота У. ШУБЫ.**

# СКАРЫНАЎСКІ ВЕЧАР У МАСКВЕ

**У Маскве, у Калоннай зале Дома Саюзаў, 26 лістапада адбыўся ўрачысты вечар, прысвечаны 500-годдзю Францыска Скарыны. Вечар адкрыў уступным словам першы сакратар праўлення Саюза пісьменнікаў СССР У. Карпаў.**

**«Слова пра Францыска Скарыну» сказаў першы намеснік Старшыні Вярхоўнага Савета БССР С. Шушкевіч. На вечары выступілі таксама доктар гістарычных навук, прафесар Я. Неміроўскі (Масква), прафесар Інстытута славяназнаўства Польскай акадэміі навук, доктар гуманітарных навук Базылі Белаказовіч, в. а. дырэктара Дзяржаўнай бібліятэкі СССР імя У. І. Леніна А. Волік, вядомыя беларускія пісьменнікі і даследчыкі спадчыны Ф. Скарыны А. Мальдзіс і А. Лойка.**

